


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

*№ 16 (45). Слонім. 17 — 23 красавіка 1998 г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*


## Чытайце ў нумары:



# ХРИСТОС ВОСКРЕСЕ!

## Из пасхального послания епископа Новогрудского и Лидского Гурия

В светлой духовной радости святая Православная Церковь встречает светозарный, радостнейший и торжественный праздник Воскресения Господа Нашего Иисуса Христа. В немеркнущем сиянии яркие лучи Божественного света, поправшего смертью смерть Спасителя, наполняют наши сердца Пасхальным ликованием: "Ныне вся исполнишася света – небо же и земля, и преисподняя: да празднует убо вся тварь востание Христово, в Нем же утверждается. Ангелы на небесах славословят, люди на земле торжествуют, демоны в страхе трепещут, потому что всему мирозданию возвращается первозданная красота и богоусыновление, ибо воистину воскресе Христос".



Сердечно приветствую всех вас со Светлым Христовым Воскресением – неиссякаемым источником вечной жизни, святой любви, чистой правды и высокой духовной радости. В этот день, "его же сотвори Господь", хотелось бы сугубо возблагодарить Всещедрого Бога и Спасителя Нашего.

Простим же друг другу "вся Воскресением", вознося молитвы благодарения Богу и Отцу Нашему, "по великой Своей милости возродившему нас Воскресением Иисуса Христа из мертвых, к упованию живому, к наследству нетленному, неувядаемому, чистому, хранящемуся на небесах для нас".

**Христос Воскресе!**
**Воистину Воскресе!**

**—Хрыстос уваскрэсе!**
**—Усяісна ўваскрэсе!**
**І рэха — як гром веснавы ў паднябессі...**
**І рэха — у сэрцах... І рэха — у песнях...**
**І вера, што кожны ў Хрысце ўваскрэсне!..**
**...І цемрадзь адыйдзе... І гора растане...**
**І смерць, быццам прывід**
**пад сонцам світальным,**
**міне ва ўспамін паўнаты Дабравесця...**
**—Хрыстос уваскрэсе!**
**—Усяісна уваскрэсе!**

**ЗЬНІЧ**

## Расклад набажэнстваў, прысвечаных Вялікодным святам

**СЛОНІМ. СВЯТА-ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА**

*18 КРАСАВІКА. ВЯЛІКОДНАЯ СУБОТА*

| | |
|---|---|
| 7.00 | – Літургія і споведзь. |
| 14.00 | – Асвячэнне Пасхі. |
| 23.00 | – Усяночная. Пасхальнае набажэнства. |

*19 КРАСАВІКА. ВЯЛІКДЗЕНЬ (ПАСХА).*

| | |
|---|---|
| 17.00 | – Вячэрня |

**АЛЬБЯРЦІН. АФАНАСЬЕЎСКАЯ ЦАРКВА**

*18 КРАСАВІКА. СУБОТА.*

| | |
|---|---|
| 23.00 | – Усяночная. Пасхальнае набажэнства. |

# Тяжела колхозная телега



«В колхозе имени Ленина Слонимского района с осени остались незапаханными 300 гектаров земли. Техника поставлена на хранение плохо очищенной от грязи, соломы. Грустно видеть такое вот пренебрежительное отношение к "железным коням", а ведь они требуют к себе внимательного и бережного обращения. Не все колхозы так богаты, чтобы позволить себе роскошь купить новый трактор или комбайн. Цены-то на них такие высокие, как жаворонки в небе. И на такой технике в этом колхозе согласно рабочему плану планируют за 20 рабочих дней посеять зерновые на 1270 гектарах. Это заведомо ведет к невыполнению работ в оптимальные агротехнические сроки. Дизтопливом обеспечены только на 20%. К тому же не хватает и механизаторов. А время горячее, весеннее. Какую думу зимой думали в Слонимском управлении сельского хозяйства, когда «день год кормит»?».

**Пресс-служба Комитета государственного контроля ("Гродзенская праўда", 11 красавіка 1998 г.)**

НАВІНЫ

## Будзем бліжэй да Бога

**Гарадскія ўлады далі дазвол Навагрудскай і Лідскай эпархіі адкрыць ларок па продажу царкоўнай атрыбутыкі і рэлігійнай літаратуры.**

Гэта гандлёвая кропка размесціцца ў магазіне №10 (вул.Першамайская, 15).

## "Папялушка" на выставе

**У СШ №9 пачала дзейнічаць выстава дзіцячых работ з гуртка "Папялушка" з цэнтра дзіцячай і юнацкай творчасці.**

Вучні, з якімі займаецца Вольга Арцёмчанка, прадставілі свае лепшыя творы – макрамэ з саломкі і сухакветы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НАВІНЫ

## Танцуе Насця Салавей

**Насцю Салавей у свой час прыкмеціла слонімскі трэнер Зоя Пятроўская. Яна запрасіла дзяўчынку ў гарадскую гімнастычную секцыю, дзе раскрыўся талент Насці.**

Пасля заканчэння пяці класаў дзяўчынка паехала вучыцца ў Мінскі харэаграфічны каледж.

Цяпер Насця Салавей танцуе ў Беларускім Акадэмічным тэатры балета. Яе дэбют адбыўся нядаўна. Наша зямлячка танцавала ў балеце "Вясна свяшчэнная".

Акрамя асноўнай працы Насця Салавей па-ранейшаму працягвае сваю вучобу. Яна паступіла і займаецца на педагагічным факультэце Беларускай Акадэміі музыкі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЗДАРЭННІ

## Гарэлка забрала жыццё

**На мінулым тыдні памерла жыхарка вёскі Савічы.**

Гэтая пажылая жанчына напярэдадні распівала гарэлку са сваім знаёмым. Калі ў суботу раніцай ён зноў завітаў да яе, дык знайшоў жанчыну ўжо мёртвай...

## Навальніца нарабіла бяды

**Сёлета першая веснавая навальніца нарабіла бяды ў вёсцы Васілевічы. Ад удару маланкі загарэўся хлеў у аднаго з жыхароў вёскі.**

На шчасце, дапамога пажарных падаспела своечасова, і агонь быў патушаны.

**Алег ТАЧОНЫ**

## Создан комитет при милиции

**Палата представителей белорусского парламента приняла в первом чтении законопроект «О внесении изменений и дополнений в закон Республики Беларусь «О милиции».**

Представил документ на сессии заместитель министра внутренних дел Беларуси Михаил Удовиков. Согласно вносимым поправкам, утверждается Комитет по организованной преступности и коррупции при МВД, который предполагается выделить в новый вид милиции.

Кроме этого, изменения коснутся порядка определения структуры и штатной численности милиции. Теперь этими вопросами будет заниматься непосредственно президент Республики Беларусь, а не Совет Министров, как это было ранее.

**БелаПАН.**

## Сеем патрохі

**Гаспадаркі раёна на 15 красавіка пасеялі збожжавых і збожжабабовых на плошчы 4729 га, што складае 27,6% да запланаванага.**

Актыўна вядуцца палявыя работы ў саўгасах "Сасноўка" і "Маладая гвардыя".

Нядрэнна ідуць справы і ў аграгандлёвай фірме "Шчара", калгасе "Чырвоная зорка".

## Як кавалям лесарубы дапамаглі

**Вядома, што з надыходам вясны на вёсцы добры каваль цэніцца на вагу золата.**

Камусьці трэба каня падкаваць, камусьці граблі зрабіць альбо да калгаснай сеялкі складаную запчастку выкаваць. Усім патрэбны гэты майстар. Таму не дзіўна, што для сельскіх кузняў раёна работнікі мясцовага лесапункта зрабілі ажно 20 тон драўнянага вугалю.

## Плачуць бярозы

Як паведамілі "ГС" у лясгасе, майстар Альбярцінскага лясніцтва Аляксандр Закржэўскі нарыхтаваў і здаў на перапрацоўку больш за 40 тон бярозавага соку. А ўсяго лясгас плануе нарыхтаваць 100 тон бярозавага соку.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ПРАБЛЕМА

# Чарга не змяншаецца, зубны боль не сціхае

Тыя слонімцы, каму давялося ў апошні час лячыць зубы, пераканаліся, як складана цяпер трапіць на прыём да стаматолага. Людзі вымушаны з пяці гадзін раніцы займаць чаргу да лекара. У гэтым я пераканаўся, калі днямі прыйшоў у паліклініку. Было 7 гадзін раніцы. А ўжо чалавек пятнаццаць, перамагаючы зубны боль, чакалі дапамогі.

У чым прычына?

З такім пытаннем я звярнуўся да загадчыцы стаматалагічнай паліклінікі Людмілы Сніб. Яна сказала, што сапраўды за апошнія 7-8 месяцаў выраслі чэргі на прыём да стаматолагаў, а разам з імі ўзрасла колькасць скаргаў ад людзей. Людміла Маркаўна лічыць, што адной з прычын з'яўляецца зношанасць машын, на якіх працуюць урачы. Сёння з 10 машын — 3 не працуюць, а чатыры трэба тэрмінова замяніць.

"Нядаўна з Мінска прывезлі пасля рамонту дзве бормашыны, аднак яны прастойваюць, бо чакаем са сталіцы спецыялістаў, якія павінны іх устанавіць", — паведаміла Людміла Маркаўна. Акрамя таго, высветлілася, што цяпер у паліклініцы не хапае чатырох урачоў. Але з 1 жніўня гэта праблема, мусіць, будзе вырашана. У Слонім павінны прыехаць пасля заканчэння Мінскага медінстытута чатыры маладыя спецыялісты. Па словах Людмілы Маркаўны, ёсць пэўныя цяжкасці з лекамі, інструментамі, матэрыяламі, але і не гэта з'яўляецца галоўнай прычынай вялікіх чэргаў. Аказваецца, што ўся бяда ў тым, што летась была ўведзена новая сістэма аплаты працы стаматолагаў. Калі раней лекар за змену павінен быў зрабіць 25 умоўных адзінак работ, то за кожную наступную ён атрымліваў дадатковую аплату.

Варта адзначыць, што аналізуючы вынікі працы медыкаў за мінулыя гады, відаць, што тады яны за рабочую змену выконвалі па 35-37 умоўных адзінак работ. Карацей, стаматолаг быў матэрыяльна зацікаўлены ў выніках сваёй працы. Цяпер жа лекар асабліва не імкнецца рабіць больш усталяваных нормай 25 умоўных адзінак работ, бо даплата за гэта не прадугледжана. Таму нашы спецыялісты вымушаны бегаць па ўсіх прадпрыемствах горада, каб атрымаць хоць невялікі дадатковы заробак. Тым часам на зубное пратэзіраванне чаргі няма. Бо ўрачы-артапеды працуюць па здзельнай аплаце працы, і кожны з іх разумее, што яго заробак цалкам залежыць ад колькасці прынятых пацыентаў. Дзякаваць богу, што тут яшчэ не дадумаліся ўвесці гаспадарчы разлік, а то, напэўна, многія гадамі ўстаўлялі б сабе зубы. «Але нашы ўрачы разумеюць усю сітуацыю і па сваёй душэўнай дабрыні перавыконваюць устаноўленыя нормы, штодзённа робячы па 29 і больш адзінак працы,— гаворыць Людміла Маркаўна. — Толькі самыя добрыя словы магу сказаць аб працы стаматолагаў Ліліі Лойка, Людмілы Бахар, Зінаіды Анісімавай, Алены Абзалімавай, Міхася Ігнатовіча, артапедаў Васіля Лойкі, Уладзіміра Кісляка, Мікалая Бессараба і многіх іншых»,— адзначыла спадарыня Сніб.

Валянцін ЧУРЫЛА

# Сіфіліс наступае

**За першыя тры месяцы гэтага года ў Слоніме і раёне на сіфіліс захварэў 31 чалавек.**

Па словах намесніцы ўрача-эпідэміёлага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Таісы Петрушкевіч, за адпаведны перыяд мінулага года такіх хворых было на сем чалавек менш. А наогул, летась на Слонімшчыне было зарэгістравана 162 хворых на сіфіліс, тым часам як у 1996 годзе такіх няшчасных налічвалася 60 чалавек.

Цікава тое, што асноўны кантынгент хворых складаюць беспрацоўныя і людзі ўзростам да 30 гадоў. Ёсць сярод хворых студэнты, навучэнцы (3 чалавекі), вайсковец, служачыя (5 чалавек) і рабочыя (5 чалавек). Амаль усе яны жыхары горада. Толькі пяць чалавек жывуць у раёне. У ліку хворых значыцца двухгадовае дзіця, якое нарадзілася з прыроджаным сіфілісам...

Па словах сп. Петрушкевіч, работнікі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праводзяць актыўную прафілактычную работу, асабліва сярод моладзі. Дапамагаюць ім супрацоўнікі міліцыі, якія займаюцца пошукам тых асоб, што ўхіляюцца ад лячэння. Аднак, як гэта ні сумна, колькасць хворых на сіфіліс не змяншаецца.

Сяргей ЁРШ

НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

## Тэатр мініяцюр пасмяшыць ад душы

**Зусім нядаўна пры доме афіцэраў быў створаны тэатр мініяцюр, мастацкім кіраўніком якога з'яўляецца Валяр'ян Вярбіцкі.**

Самадзейныя артысты са сваёй праграмай "Пасмяёмся ад душы" ужо выступілі перад сялянамі калгасаў імя Суворава, "Дружбы", жыхарамі ваеннага гарадка "Зорны" і байцамі механізаванай брыгады. Усе гледачы пасмяяліся ад душы.

## "Веснавы капеж"

**Так называецца конкурс дзіцячай песні. У першым туры ўдзельнічалі выхаванцы дзіцячых садкоў горада №1, №16, №17.**

Асабліва вызначыліся фальклорная група "Крынічка", Каця Дзедучук, а таксама Жэня Суцько і Марына Бельская.

Пераможцы адборачных тураў сустрэнуцца ў фінале 1 мая.

Валянцін ЧУРЫЛА

## Зямляк у "Зале чакання"

**Нядаўна на ОРТ адбылася прэм'ера мастацкага фільма "Зала чакання".**

Здымкі серыяла праходзілі на тэрыторыі Беларусі. У фільме здымаўся наш зямляк Сяргей Урбан, выпускнік сярэдняй школы №4.

## «На шляху да храма»

**Такую назву мае выстава беларускай мастачкі Жанны Будзька. Экспазіцыя карцін праходзіць у Мінску ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Рэспублікі Беларусь.**

Мастачка прадставіла на суд гледачоў краявіды з помнікамі мінуўшчыны. На выставе ёсць шмат палотнаў, прысвечаных помнікам Слоніма і Жыровіч.

Сяргей ЧЫГРЫН

## Фестиваль культур

**Гродно готовится ко второму Республиканскому фестивалю национальных культур, который пройдет 22-24 мая.**

В фестивале примут участие и представители всех национально-культурных объединений страны, а также художественные коллективы из близкого и дальнего зарубежья. В рамках фестиваля пройдут конкурсы песенного и танцевального искусства, выставка блюд народов Беларуси; предполагается провести і Международный рыцарский турнир.

БелаПАН

СПОРТ

## Прайшоў турнір

**У Слоніме прайшоў абласны турнір па шашках памяці Мікалая Мялешкі.**

У спаборніцтвах прынялі ўдзел 16 шашыстаў. Першае месца заняў майстар спорту Віталь Аніська, вучань СШ №10. На другім месцы навучэнец ПТВ-189 Васіль Гарасюк. А вось трэцяе месца заняў ветэран шашак Іван Мялешка, які такім чынам зрабіў сабе падарунак да 60-гадовага юбілею.

Міхась АКУЛКА

ГОРАД

## Педагог года



У дашкольных установах горада прайшоў конкурс на званне "Педагог года" сярод выхавацеляў, музычных кіраўнікоў і інструктараў па фізічнаму выхаванню. Перамагла кіраўнік музычнага выхавання дзіцячага садка №20 Таццяна Шэндзелева.

Ірына АНТОНАВА

## Вызначаны лаўрэаты прэміі

**Слонімская арганізацыя ПКБ (Партыя камуністаў Беларуская) вызначыла лаўрэатаў сваёй прэміі сярод вучняў горада.**

Сёлета, напярэдадні дня нараджэння У.І.Леніна, гэтыя прэміі будуць уручаны Лаўрэшчык Наталлі (СШ №1), Сяледчык Антаніне (СШ №4) і Шынкаравай Яніне (СШ №9).

Гэтыя прэміі ўручаюцца двойчы ў год (22 красавіка і 7 лістапада) вучням школ горада, якія добра вучацца і актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці школы і горада. Перавага, як правіла, аддаецца дзецям з няпоўных і малазабяспечаных сям'яў.

Віктар ГЕРАСІМЧЫК

УСТАЦЬ! СУД ІДЗЕ.

# Жонка-забойца

**Нядаўна за забойства свайго мужа была асуджана 36-гадовая Таццяна Навасельская, якая забіла мужа чугуннай патэльняй. Падобнага забойства не мог успомніць ніхто з удзельнікаў судовага працэсу. Асабліва ўразіла ўсіх тое, што пацярпеўшы да самай апошняй хвіліны так нікому і не прызнаўся, што ракавы ўдар па галаве яму нанесла жонка.**

...Пяць гадоў таму назад Аляксей Навасельскі застаўся ўдаўцом. Праз некаторы час ён прывёў у хату, што на Фабрычнай вуліцы ў Альбярціне, Таццяну з чатырма дзецьмі. Спачатку было ўсё добра. Аляксей, пасля працоўнай змены, спяшаўся дамоў. Да дзяцей Таццяны адносіўся, як да сваіх родных. У сям'і панавала згода і ўзаемапаразуменне.

Але праз некаторы час Аляксей пачаў заўважаць, што жонка неабыякавая да спіртнога, часта заставаў дома незнаёмых людзей. Спроба высветліць, хто яны, прыводзіла да скандалу. Прычым, з кожным разам сямейныя сцэны сталі прымаць усё больш агрэсіўны характар.

Па словах аднаго са сведкаў, які выступаў у судзе, адна са сварак магла скончыцца трагічна яшчэ ў 1994 годзе, калі Таццяна схапіла сякеру і накінулася з ёй на мужа. На шчасце, тады сякеру паспеў перахапіць сусед Навасельскіх.

Пра гэты выпадак хутка забыліся, а Таццяна і надалей працягвала ўжываць спіртное, бавіла час з чужымі людзьмі.

Аднойчы Аляксей, прыйшоўшы дамоў і ўбачыўшы жонку ў нецвярозым стане, стаў яе папракаць. У адказ яна схапіла нож і нанесла яму ўдар у паясніцу. Рана аказалася даволі сур'ёзнай, і Аляксея паклалі ў бальніцу, дзе ён схлусіў урачам, сказаўшы, што пакалечыўся аб жалезны стрыжань.

Здавалася, што Таццяна ўсвядоміла свой учынак і зрабіла належныя вывады. Яна амаль штодзённа хадзіла да мужа ў бальніцу і радавалася ў душы, што ён пашкадаваў яе і не расказаў аб здарэнні ні ўрачам, ні міліцыі.

Праз некаторы час Аляксей выпісаўся з бальніцы, а непрыемнае здарэнне было забыта. Хутка нарадзілася пятае дзіця, якога так чакаў Аляксей. Праз некалькі тыдняў ён вырашыў замацаваць свой сямейны саюз з Таццянай. У час рэгістрацыі нованароджанай дачушкі, яны зарэгістравалі і свой шлюб. Але і не думала Навасельская жыць з мужам у згодзе. Па-ранейшаму ўжывала спіртное, праводзіла час у вясёлых кампаніях. У выніку — скандалы, сваркі. Адна з такіх сямейных сцэн скончылася для Аляксея трагічна: Таццяна стукнула яго патэльняй па галаве. Навасельская спачатку спужалася, але ўбачыўшы, што нічога небяспечнага з Аляксеем не здарылася, хуткую дапамогу не выклікала, а пазычыла ў суседкі таблетак, схлусіўшы ёй, што ў мужа забалела сэрца. Не сказала яна праўды, калі на наступны дзень Аляксею стала горш і прыехала хуткая дапамога. Таццяна паведаміла ўрачам, што муж пакутуе эпілепсіяй. Яму зрабілі ўкол і не сталі везці ў бальніцу.

Прайшоў яшчэ тыдзень. Аляксею стала горш. Суседка Навасельскіх, якая выпадкова зайшла ў хату, выклікала хуткую дапамогу. Мужчыну даставілі ў рэанімацыю.

І на гэты раз, баючыся адказнасці, Таццяна зноў падманула медыкаў, паведаміўшы, што ў мужа сардэчны прыступ. Медыкі прыклалі ўсе сілы, каб выратаваць Аляксею жыццё, але чэрапна-мазгавая траўма, атрыманая ад удару патэльняй, аказалася смяротнай.

На судзе Таццяна Навасельская абвінавачвала пакойнага мужа ва ўсіх грахах. Якіх толькі гісторый яна не прыдумвала, каб апраўдаць сябе. Але дарэмна. Суд прыгаварыў Таццяну Навасельскую да шасці гадоў пазбаўлення волі.

Валянцін ЧУРЫЛА

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.
E-MAIL: gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 16 красавіка 1998 г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.600 экз.
Заказ № 1221.

АСОБА *Нашы землякі*

# Летописец космоса

Для скульптора Ивана Миско (уроженца деревни Чемеры) космос — слабость. Наверное поэтому его мастерская напоминает галерею скульптурных портретов практически всех участников программы "Интеркосмос", а двери, совсем как на Байконуре, усеяны подписями многих космических путешественников.

***—Иван Якимович, когда вы в первый раз подхватили "космическую болезнь"?***

—Как только оторвался от Земли первый спутник. Первый скульптурный портрет Юрия Гагарина я сделал, обложившись фотографиями, под траурную музыку в день его похорон. Это, пожалуй, единственный в моем творчестве случай, когда портрет космонавта я сделал не с натуры. Я выставил скульптуру во дворик художественного музея, где у меня раньше была мастерская, и отлучился на обед. Возвращаясь, я издалека увидел клубы дыма и пожарников: во дворике загорелись какие-то ящики. "Где Гагарин?" — допытывался я у подвернувшегося пожарника. Он ошалело кричал: "Какой?" — "Белый!" Когда огонь утих, я вытащил багром из углей своего Гагарина. Он остался цел, но навсегда впитал гарь. Я потом рассказал эту историю Анне Тимофеевне Гагариной. Она хотела, чтобы эта скульптура оказалась на родине Юрия. Я попытался выполнить просьбу, но к тому времени Россия и Беларусь были разделены границей. Никому не было дела до российского космонавта.

***—Наверное, за время работы вы услышали не одну космическую небылицу...***

—Меня как скульптора это совершенно не волнует. Вот когда я лепил кубинского и румынского космонавтов, меня очень интересовало, какую цветовую гамму Земли может обозреть человек, который поднимается на космическую высоту. Они утверждают, что на палитре не найти таких красок. На этой огромной высоте задумываешься о смысле существования человека на Земле. Кстати, многие астронавты после полета полностью переоценили свою жизнь. Американские луноходцы, например, стали верить в Бога. Как сказали румын и кубинец, стоило бы правителей всех государств отправить в космос, чтобы они видели дальше горизонта и задумались о жизни, о мире, о доброте, о красоте.

***—Вам самому хотелось бы полететь в космос?***

—Еще как! Но не всем дано. Я покрутился на всех тренажерах в Звездном. Это очень тяжело. Не все, даже попавшие в отряд, выдерживают. В истории космонавтики — единицы городских парней. Практически все — из деревни. Они добровольно шли на участие в непредсказуемом эксперименте. Многие поплатились за это здоровьем. Еще молодые мужчины так располнели, что не хотят сниматься ни на видеопленку, ни на фото. Отцами все они стали еще до полетов в космос — а после не пришлось. Провалились даже попытки оплодотворения семенем, взятым в космосе.

***—Но ведь Светлана Савицкая родила ребенка, зачатого в космосе...***


Скульптар Іван МІСКО

—Это неправда. Иначе мне бы об этом рассказали.

***—Как думаете, о чем говорили бы матери космонавтов, если бы они на самом деле, а не только в вашей скульптурной композиции, получили возможность встретиться при жизни?***

—А я ничего не придумывал. Такая встреча матерей Гагарина, Климука, Коваленка и Куприянова состоялась во время церемонии открытия памятника последнему. Лепил я, правда, каждую мать поодиночке. Мне как-то сделали замечание: "Почему такие грустные матери героев сидят?" Кто-то помог ответить: "А почему они должны быть веселыми?" За плечами у каждой из них война и своя нелегкая судьба.

***—С кем вам работалось легче?***

—С матерями. Они терпеливы. Из сыновей-космонавтов не любит позировать никто. Им кажется, что достаточно тридцати минут, чтобы со всем покончить. К тому же не дают наедине побыть! Сразу набегает народ. Женщины просятся хоть на расстоянии взглянуть. А мне работать надо. А дети? Толпами у дверей мастерской стояли.

***—А вам никогда не хотелось, чтобы космонавты в вашем исполнении выглядели не героическими личностями, а такими же простыми людьми, как их матери?***

—Когда я делал бюст Коваленка, он захотел быть на нем не в космической одежде, а в военной. Скафандр ведь не повседневная, а рабочая форма, только для полета. "Хорошо, — сказал я ему, — но пройдет десять-двадцать лет, и чем ты докажешь, что был космонавтом?" Я настоял, чтобы этот космический символ остался. Через много лет космонавт согласился, что прав был я, сумевший заглянуть в будущее.

Но случается и по-другому. Я не буду называть фамилии скульптора и космонавта. Завершив работу, они решили отпраздновать. Выпили, а потом скульптор поднялся на стол, посмотрел на свое произведение и сказал: "А ты не такой". И космонавт согласился. Взяли молотки, топор и давай рубить. На следующий день лепили наново.

***—Вы знаете, что страшнее всего для космонавта?***

—Остаться вечным дублером. Советским космонавтам это не грозило. У них всегда был шанс полететь позже. За бортом оставались дублеры румынских, болгарских, кубинских, французских, венгерских, немецких, английских космонавтов. Каждый хотел полететь. И готовность к полету была одинаковая. У большинства из тех, кто так и не попал в космос, жизнь сложилась трагически. Многие дублеры погибли при разных обстоятельствах.

**"ИМЯ"**

ФУТБОЛ. ВЫСШАЯ ЛИГА

# ПЕРВЫЙ БЛИН КОМОМ...

## Торпедо-Кадино (Могилев) — Коммунальник (Слоним) — 3:0

**Могилев. 12 апреля. 4500 зрителей.**
**Судья К.Дайлид (национальная категория, Брест).**
**Коммунальник: Киркиж, Хмелев, Шупилов (В.Дегиль, 63), А.Дегиль, Дым, Янковский, Пашкевич (Феоктистов, 46), Савицкий, Баль (к), Киреня (Савонь, 70), Татарашвили.**
**Конкурс «ГС» и ООО «Телкон»: Киркиж, — , Шупилов.**

В первой игре сезона "Коммунальнику" достался традиционно неудобный соперник. А поскольку, по прогнозам футбольных специалистов, "Торпедо-Кадино" и "Коммунальник" будут бороться за "выживание" в лиге, цена этого матча была очень велика. Кроме того, могилевская команда только за несколько недель до начала чемпионата получила право играть в высшей лиге и поэтому настроена была побоевому. Нельзя не отметить тот факт, что "Торпедо-Кадино" возглавляет опытный тренер М.Басс, который работает с командой на протяжении всех (!) прошедших чемпионатов Беларуси.

Первый тайм прошел в обоюдоострых атаках. В начале игры из выгодного положения промахнулся Шупилов. А затем несколько раз спас слонимчан Киркиж. Вторая половина игры началась с сомнительного пенальти, который в ворота "Коммунальника" назначил судья Дайлид. Одиннадцатиметровый четко пробил Байда. Неожиданный гол уже на 3-й минуте второго тайма сломал игру слонимчан. И через несколько минут опытный Скоробогатько забивает "Коммунальнику" второй мяч. До 3:0 счет довел все тот же Байда, который на 83-й минуте точным ударом замкнул прострел Банула. В итоге – первое поражение, да еще и с крупным счетом.

Прокомментировать стартовый матч "Коммунальника" согласился **главный тренер команды Алексей Шубенок:**

—Первый блин получился комом... Конечно же сказались предстартовые волнения. Если первый тайм прошел в равной борьбе, то во втором – хозяева нас переиграли. Сказалась тут и активная поддержка "Торпедо-Кадино" могилевскими болельщиками... Много было ошибок наших игроков, причем на всех линиях. Считаю, что я не угадал состав команды. К следующей игре он будет изменен.

По информации "ГС", за несколько дней до стартового матча неожиданно "потерялся" полузащитник "Коммунальника" Валерий Колядчик. Однако после поражения на выезде он "нашелся" и, возможно, усилит игру нашей команды в матче с борисовским БАТЭ.

Руководство футбольного клуба "Коммунальник" приглашает болельщиков поддержать наших футболистов в первой домашней игре с командой БАТЭ. Этот матч состоится в субботу, 18 апреля, в 16.00 на стадионе "Юность". Стоимость билета 20 тыс. рублей.

**Сергей ЁРШ**

**ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА**

| | | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Динамо-93 (Минск) | 1 | 1 | 0 | 0 | 5-1 | 3 |
| 2. | Торпедо-Кадино (Могилев) | 1 | 1 | 0 | 0 | 3-0 | 3 |
| 3. | Гомель | 1 | 1 | 0 | 0 | 2-0 | 3 |
| 4. | Динамо (Брест) | 1 | 1 | 0 | 0 | 2-0 | 3 |
| 5. | Торпедо (Минск) | 1 | 1 | 0 | 0 | 2-0 | 3 |
| 6. | БАТЭ (Борисов) | 1 | 1 | 0 | 0 | 2-1 | 3 |
| 7. | Славия (Мозырь) | 1 | 1 | 0 | 0 | 1-0 | 3 |
| 8. | Локомотив-96 (Витебск) | 1 | 0 | 1 | 0 | 1-1 | 1 |
| 9. | Шахтер (Солигорск) | 1 | 0 | 1 | 0 | 1-1 | 1 |
| 10. | Молодечно | 1 | 0 | 0 | 1 | 1-2 | 0 |
| 11. | Белшина (Бобруйск) | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-1 | 0 |
| 12. | Днепр-Трансмаш (Могилев) | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-2 | 0 |
| 13. | Нафтан-Девон (Новополоцк) | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-2 | 0 |
| 14. | Неман (Гродно) | 1 | 0 | 0 | 1 | 0-2 | 0 |
| **15.** | **Коммунальник (Слоним)** | **1** | **0** | **0** | **1** | **0-3** | **0** |
| 16. | Динамо (Минск) | 1 | 0 | 0 | 1 | 1-5 | 0 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98



## Внимание, конкурс!

Как уже сообщала "ГС", редакция газеты и ООО "Телкон" объявили конкурс по итогам выступления команды "Коммунальник" в сезоне 1998 года. Победители конкурса будут определяться по трем номинациям: первый приз достанется лучшему игроку (цветной телевизор иностранного производства), второй – лучшему бомбардиру (видеомагнитофон), третий – лучшему новичку (магнитола). При определении победителей учитываются письма и пожелания болельщиков.

**Итоги 1-го тура конкурса:**
лучший игрок – Игорь Киркиж,
лучший бомбардир – нет,
лучший новичок – Владимир Шупилов.

СЛОВА ПРОСІЦЬ БАЛЕЛЬШЧЫК

# МЯНЕ ХВАЛЮЕ ЛЁС "КАМУНАЛЬНІКА"

Каб восенню не крычаць аб праліках нашай футбольнай каманды, лепш сказаць аб іх сёння. Бо калі мы сёлета "вылецім" у першую лігу, то там застанемся ўжо надоўга.

Калі я прачытаў састаў нашай каманды, то вельмі засумняваўся ў паспяховым выніку гэтага чэмпіяната для слонімцаў. А так хочацца мець у горадзе прафесійны футбольны клуб. Аднак, гэтага пакуль не атрымліваецца. Не бачу я тых, якія б забівалі прыгожыя галы. Гэта таму, што ў нашай камандзе вельмі дрэнна арганізавана тактычная падрыхтоўка. Калі тэхнікай гульні футбалісты больш-менш валодаюць добра, то тактыка гульні, асабліва ў абароццы і паўабароццы, не на высокім узроўні. А фізічная падрыхтоўка футбалістаў, як паказаў мінулы чэмпіянат, зусім слабая.

Зыходзячы з гэтага, я прагназую "Камунальніку" апошняе месца ў гэтым чэмпіянаце з малой колькасцю ачкоў (да 18-19). А каб гэтага не здарылася, прапаную:

1. Камандзе неабходны высокакласныя і вопытныя футбалісты. 2. Моцная фізпадрыхтоўка футбалістаў. 3. У клубе павінна быць строгая дысцыпліна як на полі, так і ў жыцці. 4. Прафесійная, сур'ёзная і пастаянная селекцыйная работа.

**Аляксей ЖУКОЎСКІ**, вёска Ашнаравічы

**АД РЭДАКЦЫІ. Мы не зусім згодны з меркаваннем аўтара, аднак лічым, што ён мае права выказаць сваю думку.**

# НАША СПАДЧЫНА

## Слонімская геральдыка

У Мінску выйшла з друку кніга вядомага беларускага гісторыка Анатоля Цітова "Геральдыка беларускіх местаў (XVI—пач. XXст.)", якая з'яўляецца амаль поўным зборам выяваў гербаў беларускіх гарадоў.

Шмат увагі А.Цітоў удзяляе Слоніму і Жыровічам. У кнізе змешчаны гербы і пячаткі нашага горада розных часоў. Слонім, як вядома, атрымаў самакіраванне ў 1531 годзе, але дагэтуль невядома, які герб упрыгожваў гарадскую пячатку да 1591 г. Менавіта ў гэтым годзе горад атрымаў герб з выявай льва.




Анатоль Цітоў піша, што прывілей (каралеўская грамата), які даравaў Слоніму сённяшні герб, быў знойдзены ў Пецярбургскіх рукапісных сховішчах. Сабой ён уяўляе вялікі пергамінавы аркуш, напісаны беларускім скорапісам канца XVI ст. На прывілеі быў і малюнак герба, які, на жаль, моцна пашкоджаны вільгаццю...

У кнізе ёсць выява харугвы Слонімскага павета, пад якой слонімская шляхта ваявала супраць захопнікаў на працягу двух стагоддзяў (XVI-XVIIIст.). Захоўваецца яна ў музеі Войска Польскага ў Варшаве.



Цітоў таксама распавядае пра гісторыю паходжання герба Жыровіч, які ўяўляе сабой сцэну хрышчэння. Цікава, што ў прывілеі караля Яна Казіміра ад 1652 года, якім Жыровічам давалася самакіраванне, не агаворваeцца герб самога мястэчка. Аднак у той час ён шырока выкарыстоўваўся на розных дакументах.

**Сяргей ЁРШ**

## СТАРЫЯ ФОТАЗДЫМКІ, 1939 г.



У 1938-39 гадах у вёсцы Пятралевічы дзейнічалі бясплатныя курсы швачак. Польскія настаўніцы вучылі дзяўчат шыць, маляваць, а таксама іншым карысным рэчам, якія спатрэбяцца будучым гаспадыням. Калі ў верасні 1939 года на Слонімшчыну прыйшлі бальшавікі, яны сказалі, што ім "такія спецыялісты не патрэбны". Прыйшлося дзяўчатам з курсаў здаваць экзамены ў 5 клас савецкай школы.

Рэдакцыі ўдалося устанавіць прозвішчы навучэнак, якія сфатаграфаваны на гэтым здымку. Сядзяць (злева направа): ***Соф'я Патройная***, ***Соф'я Рутkоўская***, ?, ***Зіна*** — настаўніца са Слоніма, ***Кацярына Лешка***. Стаяць (злева направа): ***Марыя Падковіч***, ***Вера Падковіч***, ***Ліда Дэзік***, ***Марыя Данільчык***, ***Кацярына Мамай***, ***Марыя Каўрук***, ***Ніна Астапчык*** і ***Зіна Макарэвіч***.

## НАШ КОНКУРС НАБЫЎ СВОЙ ПРАЦЯГ

## Тайна "Гнилого озера"

Неожиданно прояснилась загадка о происхождении оружия из "Гнилого озера" ("ГС" №7(36)). Руководитель общины слонимчан в Израиле Цви Шефет (Гриша Шепетинский) написал нам письмо, в котором утверждает, что оружие, найденное в 60-ых годах в озере, принадлежало подпольщикам слонимского гетто. После оборонительных боев 1941 года на полях Слонимщины осталось огромное количество брошенного стрелкового оружия. В районе нынешней четвертой школы немцы создали мастерские по его ремонту и сортировке ("Бойтэлагер"). На складах и в мастерских работали сотни людей из гетто. Еврейские мастера даже пристреливали отремонтированные винтовки, автоматы. Один из очевидцев вспоминает, как смеялись немецкие офицеры, наблюдавшие за "неумелыми" попытками еврейского "снайпера" поразить мишень. И только стоявшие рядом товарищи знали, что тот еще в Польской армии получил серебряные часы за отличную стрельбу. А для некоторых подпольщиков эта пристрелка была хорошей школой стрелкового мастерства.

Трудно подсчитать, сколько оружия переправили подпольщики в лес партизанам. Бывший начальник штаба Брестского партизанского соединения П.Пронягин, у которого в отряде им. Щорса была целая рота (51-ая группа) из евреев Слонима пишет, что "все бойцы, даже женщины, приходили в отряд вооруженные".

Стоит сказать, что в своем большинстве в партизанские отряды без оружия и не принимали. Хотя за похищенное оружие, даже один патрон, узника гетто ожидала смерть на месте. И все равно, ежеминутно рискуя жизнью, люди выносили по частям пулеметы, винтовки, автоматы... В городе имелось несколько тайников и перевалочных оружейных баз. Склад в Михайловском переулке (нынешняя улица Кутузова) принадлежал Давиду Перелю. Дом его дяди — Нисана Переля — стоял ближе всех к Щаре (к "Гнилому озеру"). Давид нашел разумное решение: спрятал винтовки в болоте. Кстати, местные жители подтверждают факт наличия большого количества оружия и взрывчатки на территории гетто. Ведь еще два дня на дымящихся пепелищах слышны были взрывы боеприпасов, припрятанных узниками гетто в разных местах.

**Игорь ПОДГОРОДЕЦКИЙ**

## З ГІСТОРЫІ СЛОНІМСКАГА СПОРТУ

# Трагічны лёс плыўца



*Амар Байрашэўскі*

Высвятляецца, што наш горад багаты сваімі спартыўнымі традыцыямі. На жаль гісторыя развіцця слонімскага спорту мае шмат "белых плямаў". Гэтаму ёсць свае прычыны. Напрыклад, вельмі цяжка знайсці матэрыялы пра нашых спартсменаў даваенных часоў і іх спартыўныя дасягненні. Але захавалася памяць людская, з дапамогай якой мы паспрабуем аднавіць цэлыя старонкі славутага слонімскага спорту.

У 1933-35 гадах праводзіліся спартыўныя спаборніцтвы Навагрудскага ваяводства і "усходніх крэсаў" ("крэсамі" тады называлі Львоўскае, Ровенскае, Валынскае, Навагрудскае і Віленскае ваяводствы). Першымі іх пераможцамі былі слонімцы Амар Байрашэўскі (па плаванню) і Арсень Хрэшчыкаў (кідание кап'я).

Сёння я хацеў бы ўзгадаць пра Амара Байрашэўскага, чалавека, які ўваходзіў у зборную Польшчы па плаванню, быў чэмпіёнам "крэсаў усходніх" і прызёрам краіны ў плаванні батэрфляем і кролем.

Асабіста я добра ведаў гэтага чалавека. Да 1939 года Амар паспеў скончыць гімназію, а пасля вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. Па некаторых звестках, 23-гадовы Амар Байрашэўскі прымаў удзел у абароне Варшавы ад фашыстаў у верасні 1939 года. Пазней ён вярнуўся ў Слонім, але ненадоўга. 10 лютага 1940 г. сям'я Байрашэўскіх была арыштавана энкавэдзістамі і вывезена ў Сібір. Там, на чужыне, загінулі бацька Амара, палкоўнік польскай арміі, яго маці і сястра. Сам Амар выжыў.

Арышт, фактычна, спыніў спартыўную кар'еру Амара Байрашэўскага... Можа хтосьці яшчэ памятае яго — высокага, шыракаплечага, атлетычна складзенага мужчыну: высокі разумны лоб, гладка прычэсаныя назад валасы, добрыя разумныя вочы, спакойны характар. Такім я яго ўбачыў у 1953 годзе, калі мы разам былі на абласных і рэспубліканскіх спаборніцтвах у Мінску. Гэта быў час, калі Амар толькі вярнуўся з высылкі. Першыя 50 метраў ён не плыў, а ляцеў над вадой, нібы дэльфін. Амар заняў прызавыя месцы, але на чэмпіёнскі тытул не хапіла сіл — здароўе было падарвана у лагерах...

...Вось так склаўся лёс гэтага чалавека. Ён працаваў фельчарам у Парэччы, Жыровічах. Меў Амар славу добрага доктара, вось і ішлі да яго людзі з навакольных вёсак. Ён дабіўся значных дасягненняў у спорце, таго ж мог дабіцца і ў медыцыне. Але такіх людзей у тыя часы ўлады не шанавалі...

Амар пачаў піць гарэлку (дарэчы, многія пацыенты расплачваліся з ім "сівухай"). А людзі яго любілі, бо быў Амар дабразычлівым, камунікабельным чалавекам. Хвароба прагрэсіравала, не склалася асабістае жыццё...

У 1984 годзе хворага Байрашэўскага забралі сваякі ў Польшчу. Там ён перастаў піць гарэлку, але пражыў нядоўга. У 1987 годзе Амар памёр.

**Вячаслаў СЦЯПУРА**

## "Приговор приведен в исполнение..."

Два гады таму мне выпадкова трапіла ў рукі газета "Вечерний Петербург" (ад 4 красавіка 1996 г.), якая друкавала "Ленінградскі мартыралог 1937-38 гадоў. Спіс грамадзян, расстраляных па прысуду "тройкі" УНКВД Ленінградскай вобласці, таксама камісіі НКВД і пракуратуры СССР". Спіс гэты газета змяшчала на сваіх старонках на працягу шасці гадоў і нават падрыхтавала на яго аснове "Кнігу памяці".

У гэтым нумары "Вечернего Петербурга" ёсць і два прозвішчы нашых землякоў, звесткі пра якіх друкуем ніжэй. Можа адгукнуцца сваякі ахвяраў бальшавіцкага тэрору?

**Сяргей ЁРШ**

**Лозовский Трофим Яковлевич**, 1891 года рождения, уроженец д.Белавичи Слонимского уезда Гродненской губернии, поляк, беспартийный, стрелочник ст. Оять Кировской ж. д., проживал в пос. Чегла Пашского района Ленинградской области. Приговор приведен в исполнение в ноябре 1937 года.

**Кот-Тараканова Мария Дмитрнев-на**, 1896 года рождения, уроженка д. Цевищино (Цывіншчына — С.Ё.) Слонимского уезда Гродненской губернии, полька, беспартийная, сторожиха путевой колонны ст. Волховстрой-II, где и проживала. Приговор приведен в исполнение в ноябре 1937 года.

*Синагога. Снимок 1912 г.*

## «Прославились» на всю Европу

Во время фашистской оккупации подвал главной слонимской синагоги (ул. Школьная) подпольщики гетто приспособили для оружейного тайника. Этим фактом заинтересовались немецкие телевизионщики, которые недавно снимали фильм об истории города 1941-44 года. Наверное, лучше бы они прошли мимо!

Уникальный историко-архитектурный памятник Беларуси встретил гостей распахнутыми настежь дверями и стойким запахом туалета. За последнее время этот древнейший, из сохранившихся в городе архитектурных памятников, превращен в свалку мусора и битого кирпича, где нашли свое пристанище алкоголики и бомжи. Увиденное вызвало у немцев шок.

Неужели городской бюджет настолько оскудел, что нет даже денег на покупку навесного замка? Или надо ждать, пока какой-нибудь заокеанский земляк подарит несколько долларов на его покупку?

**Иван ХОХЛОВ**

 



# ЧЕСТЬ ИМЕЮ

ПРАВОФЛАНГОВЫЕ

## Связист — прапорщик Мицкевич

Прапорщик Александр Мицкевич в армии служит 15 лет, из них 5 лет в Слонимской бригаде. За это время он зарекомендовал себя классным специалистом связи, дисциплинированным военнослужащим. Он пользуется авторитетом у однополчан.

"Там, где Александр Мицкевич — задача будет выполнена точно и в срок", — так коротко и метко характеризуют его командиры.



## Беларусь на мировом рынке торговли оружием

Юрий СТРИГЕЛЬСКИЙ, журналист

В последние годы мы уже привыкли к постоянному и стабильному росту продаж российского оружия. Если в 1994 году за рубеж было поставлено минимальное количество вооружения и военной техники (ВВТ) — всего на 1,4 миллиарда долларов США, то в 1995 году объем продаж вырос до 3,1 миллиарда, а в 1996 году составил 3,3 миллиарда долларов с учетом клиринга и поставок в счет погашения долгов. По прогнозу на 1997 год ожидалась поставка вооружений на сумму 4-5 миллиардов долларов. И предполагалось, что уже в 1998 году Россия догонит США, контролируя около 30% мирового рынка вооружений.

Однако в 1997 году российские экспортеры стали терпеть серьезные неудачи. Следует напомнить, что еще в конце 1996 года Беларусь перехватила у них контракт на сумму в 385 миллионов долларов на поставку 16 истребителей МиГ-29 в Перу. Болгария, несмотря на предложенные Россией льготные условия, отказалась от закупок 12 МиГ-29СМ и 2 учебно-боевых МиГ-27УБ на сумму в 450 миллионов долларов. Также не состоялось подписание контракта на 560 миллионов долларов с Эквадором.

В отличие от России, представленной лишь на части рынков ВВТ, где ранее доминировал Советский Союз, Беларусь после обретения независимости вполне уверенно расширяет круг импортеров оружия. Из 4 белорусских экспортеров, осуществляющих поставки в страны ближнего и дальнего зарубежья, основными являются ВТО "Белтехэкспорт" и "Белспецвнештехника".

В сотрудничестве с Россией в 1997 году осуществлялись поставки авиационной и бронетанковой техники, систем противовоздушной обороны и артиллерийских систем в страны Латинской Америки, Африки и Азии. Военно-промышленный комплекс Беларуси совместно с Россией, Украиной и Казахстаном реализует ряд программ по разработке и производству современных ракетно-космических систем, комплексов противовоздушной обороны, элементов высокоточного оружия, уникальных оптических приборов.

На территории бывшего СССР одним из основных импортеров белорусского ВВТ является Молдова. В эту страну поставлялись автомобильная и гусеничная техника, стрелковое оружие и боеприпасы, реактивные системы залпового огня "Град". 6 февраля 1998 года с аэродрома Мачулищи была отправлена первая партия из восьми бронетранспортеров БТР-80 с полным комплектом вооружения и боеприпасов, запасными инструментами и принадлежностями. В Беларуси осуществляется и ремонт боевой техники Молдовы. Проводится капитальный ремонт шести истребителей МиГ-29 военно-воздушных сил Молдовы, планируется ремонтировать вертолеты и танки молдовской армии.

Крупнейшим импортером белорусского оружия в дальнем зарубежье стала Перу. Вначале туда были поставлены 16 истребителей МиГ-29, затем — 14 штурмовиков СУ-25. Третий крупный контракт, заключенный с этой страной, — на поставку самоходных зенитных ракетно-пушечных комплексов "Тунгуска", зенитных ракетных комплексов SA-19 (по западной классификации), SA-15 Tor Gauntlet, предназначенных для уничтожения воздушных целей на малых и средних высотах.

Однако есть опасность заключения Беларусью контрактов со странами, поставки оружия которым могут нанести существенный ущерб имиджу белорусского государства. Для "профилактики" этого необходимо просто соблюдать ряд рекомендаций международного сообщества по поставкам ВВТ в страны из "черного списка" (Ирак, Иран, Ливия, Северный Китай и т.д.), а также в те страны, где продолжаются военные конфликты.

БелаПАН

ИНОСТРАННЫЙ ЛЕГИОН

## Спецназ Франции

**Французский Иностранный легион... Отвага и мужество легионеров, порой граничащее с безрассудством, давно уже стали легендой. Успешно действуя в самых разных уголках мира, легион приобрел славу одного из сильнейших подразделений специального назначения: по уровню своей боевой подготовки он сегодня делит второе место с подразделениями "зеленых беретов" США, уступая лишь российским ВДВ и белорусским штурмовым подразделениям.**

### Школа выживания

*(из инструкций для "зеленых беретов" и рейнджеров)*

**1.** Находясь в лесу (поле) зимой, вы обморозили руку. Не пытайтесь растирать ее снегом или согреть около костра. На начальной стадии обморожения (побеление кожи) осторожно разотрите пораженные места мягкой шерстяной тканью до покраснения и потепления кожи. При сильном обморожении (омертвление ткани, образование пузырей) растирания противопоказаны.

**2.** Вам необходимо переправиться вброд через реку с быстрым течением. Переходите ее под углом 45 градусов против течения. Более устойчивое положения придадут вам плотно упакованный рюкзак и обувь. Если есть возможность, возьмите с собой шест. Он ставится против течением и служит опорой.

**3.** Вас мучает чувство голода, а продуктов питания нет. Если, попробовав немного ягод (грибов, растений), через 6-8 часов вы будете чувствовать себя хорошо, можете смело употреблять их в пищу. За редким исключением растения, которые едят птицы, звери безопасны для человека.

**4.** В течении нескольких дней вы двигаетесь в заснеженном лесу и по покрытой снегом равнине. Яркий солнечный свет, отражающийся от него, сильно раздражает глаза. Если у вас нет специальных очков, сделайте защиту для глаз из подручных материалов (бумаги, картона, резины, фотопленки, коры деревьев и т.п.), но не прорезайте отверстий по размеру глаз. Нужно сделать в изготовленной маске прорези в виде двух крестообразных щелей по форме знака "плюс". В этом случае гарантируется полная защита глаз. Никогда не делайте защитные приспособления из металла, так как это может привести к сильному обморожению кожи.

**5.** Передвигаясь по тонкому льду озера, вы внезапно попали в холодную воду. Достигнув берега, вспомните, что снег впитывает воду так же хорошо, как и губка. Прежде чем вы найдете возможность высушить мокрую одежду, необходимо лечь на снег и некоторое время "покататься". Не снимайте одежду при низкой температуре.

**6.** Вам предстоит совершить длительный переход. Далеко от конечного пункта пути вы обнаружили потертости на ногах. Переодевание носков с одной ноги на другую несколько облегчит ваше состояние. Носки более гладкие с наружной стороны, поэтому рекомендуется вывернуть их наизнанку для уменьшения вероятности появления мозолей. Если вы обнаружили потертые места, немедленно наклейте лейкопластырь. При появлении волдыря проколите его у основания стерильной иглой, выдавите жидкость, наложите повязку.

**7.** Вы укрылись в оборудованной вами снежной пещере. Имеющаяся горелка освещает и согревает убежище. Желтый цвет пламени горелки указывает на то, что в пещере скопился углекислый газ. В этом случае следует открыть входное отверстие для вентиляции. При появлении пламени красного цвета необходимо покинуть пещеру, проветрить ее до появления пламени синего цвета.

**8.** В жаркий знойный день вы чувствуете, что язык начинает распухать от недостатка воды. Учтите, что наглухо застегнутая одежда до некоторой степени уменьшает испарение пота. Это способствует сохранению в теле воды. Найдите любую тень и укройтесь там до вечера. Совершайте переходы в ночное время.

**9.** Внезапно разразилась сильная гроза, приближаются интенсивные вспышки молнии. Укрываться под большими, обособленно стоящими деревьями опасно. Найдите не выделяющееся на местности укрытие, накройтесь палаткой и переждите грозу. Оружие (автомат) спрячьте под одежду.

**10.** От дыма лесного пожара вы начинаете задыхаться, он слепит вас. Рекомендуется ползти в безопасное место, плотно прижавшись к земле. Воздух около травы относительно чист от дыма.

**11.** Находясь в районе, в котором есть ядовитые змеи, вы внезапно почувствовали ожог на лодыжке и обнаружили следы укуса. Если они имеют вид двух точечных полосок от зубов, в верхней части которых справа и слева от них на расстоянии примерно 2 мм видны по две более крупные точки, то это следы укуса ядовитой змеи. Поэтому следует немедленно принять профилактические меры.



**12.** Вы находитесь в лесу и, не опасаясь противника, зовете на помощь товарищей. Громкий, на низких тонах крик будет слышен значительно дальше, чем свист или пронзительный крик.

**13.** Вы передвигаетесь по засушливой местности и очень хотите пить. У вас полная фляга воды. Вам следует помочить рот и сделать одинде глотка. Чем больше вы пьете, тем больше будете потеть, следовательно, терять влагу и соли. Поэтому жажда будет только увеличиваться.

**14.** Вы подошли к реке, покрытой тонким льдом. Перед спуском на лед убедитесь в его крепости. У берегов он часто зависает, тогда возможно образование пустот. Это чаще всего бывает возле обрывистых участков берега. Вам для переправы следует искать наиболее пологий берег, где зависание льда будет минимальным. Не приближайтесь к устьевым участкам протоков. Здесь лед наиболее тонкий, могут быть и промоины. Темные и бурые пятна указывают на наличие в этом месте промоины или полыньи.

**15.** Что вы знаете об уходе за обувью?

а) Известно, что для сохранения обуви и защиты ног от сырости в ненастную погоду ее необходимо 2-3 раза в неделю смазывать сапожной мазью. При отсутствии специальной мази обувь следует смазывать несоленым салом, жиром крупных водяных птиц, рыбьим жиром, сырым мылом, растительным маслом (особенно касторовым), дегтем, который можно получить из бересты. Нельзя смазывать бензином, керосином, соляркой, соленой водой.

б) Намокшие сапоги (ботинки) нужно сушить в закрытом пространстве при температуре не выше 40 градусов. Хорошо насыпать внутрь нагретый сухой песок или набить сухим сеном, мхом. Над костром сушить обувь не рекомендуется.

**16.** Мыло и другие обычные моющие средства можно заменить моющей глиной, отваром фасоли (1 кг фасоли отварить в 5 л воды).

**17.** Проходимыми являются моховые болота. Обычно они покрыты сплошным слоем старого (отмершего) мха или торфа. На труднодоступных участках болот обычно растет осока, здесь также видны поросли осин и берез, которые свидетельствуют о слабости верхнего слоя болот. Непроходимые участки можно определить по плавающему на воде растительному покрову (зыбунами), а также по камышу (тростнику).

**18.** Кора больших деревьев с северной стороны всегда толще и грубее, чем с южной. У березы с южной стороны кора светлее. Муравейники располагаются, как правило, с южной стороны деревьев, пней, кустарников.

**19.** Человек проходит в час столько километров, сколько делает шагов за 3 секунды (при ширине шага 0,83м). На высотах 2500-3000м над уровнем моря скорость движения уменьшается на 25-30%, выше 3500 м — на 50-60%. В распутицу скорость движения по лугу с кочками и целине с густым покровом травы — до 25%. В ливень и метель скорость движения снижается на 15-20%, а при сильном встречном ветре — на 50%.

**20.** У вогнутых участков берега глубина реки бывает всегда наибольшей и течение быстрее. Поэтому она подмывает берег и углубляет русло. У выпуклого берега течение, как правило, замедляется: оседают наносы, образующие отмели. Скорость течения воды всегда меньше у берегов, чем на фарватере, на расширенных участках реки, а не на суженных, у выпуклых берегов, а не вогнутых.

**21.** При какой толщине льда можно переходить водоемы? Отдельным пешеходам — при толщине льда 5-7см, группе людей — 7-12 см. Для всадника на лошади безопасен лед толщиной 10-12см, для группы всадников — 15 см. Проезд легковых машин возможен по льду толщиной 25см, грузовых — 45 см. Наиболее прочен лед с синеватым или зеленоватым оттенком.

**22.** Во время движения группы людей в грозу рядом с ними ударила молния. Один человек упал. При осмотре вы заметили на его теле обширные древовидные красные полосы, а также явное отсутствие признаков жизни. Несмотря на это, пострадавшему необходимо немедленно делать искусственное дыхание до тех пор, пока он не станет дышать. Категорически запрещается закапывать пострадавшего в землю.

«АРМИЯ»

 

